*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 25 (124)* *7 - 13 ліпеня 1995 г.* *Кошт 600 рублёў*

*НА ЗЬМЕНУ ПРЫХОДЗІЦЬ МОЛАДЗЬ* - ст. 2.

*НАВОШТА МАНАШКАМ ШАРМ?* - ст. 3.

*КСЁНЗ ЯНКОЎСКІ ВЫКЛІКАЎ ПРАТЭСТ* - ст. 4.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква.*

## ПЛАЦІЦЬ ТРЭБА ЗА ЎСЁ

**Адбылася дваццаць другая сесія Гарадзенскага абласнога Савету дэпутатаў дваццаць першага скліканьня.**

На сесіі прынята рашэньне аб устанаўленьні мясцовага збору за паркаваньне аўтатранспарту на кантрольна-прапускных пунктах "Брузгі" і "Бераставіца". Ім прадугледжана, што з уладальнікаў транспартных сродкаў пры выезьдзе за мяжу праз КПП (незалежна ад мэты паездкі) будуць спаганяцца мясцовыя зборы за паркаваньне аўтатранспарту. Так грамадзянін Беларусі, уладальнік матацыкла, будзе плаціць палову мінімальнай заробнай платы, уладальнік легкавога аўтамабіля - адну, мікрааўтобуса ці грузавога аўтамабіля - тры, аўтобуса - дзесяць; грамадзянін адной з краін СНД - 10, 20, 25 і 50 доляраў ЗША ці ў расейскіх рублях па курсу Нацбанку Беларусі адпаведна; грамадзянін іншай краіны сьвету - аналагічныя сумы, альбо ў германскіх марках. 70 працэнтаў атрыманых сродкаў паступяць у абласны бюджэт, а зборы ў СКВ - поўнасьцю ў Валютны фонд аблвыканкаму.

Дэпутаты зацьвердзілі стаўкі падаходнага падатку з грамадзян у цьвёрдых сумах для асобных відаў прадпрымальніцкай дзейнасьці, ажыцьцяўляемай без утварэньня юрыдычнай асобы. З 1 ліпеня, напрыклад, за правядзеньне занятнаў у парадку рэпетытарства давядзецца плаціць 0,3, тэхабслугоўваньне транспартных сродкаў - 4, а транспартнае абслугоўваньне грамадзян уласьнікамі асабістых аўтамабіляў па перавозцы пасажыраў і грузаў у Горадні і Гарадзенскім раёне - 5 гадавых мінімальных заработных плат.

Сесія абласнога Савету таксама вырашыла па прапанове УУС аблвыканкаму ўстанавіць адміністрацыйную адказнасьць за знаходжаньне дзяцей і падлеткаў да 16 гадоў у грамадзкіх месцах. Згодна яму забаронена іх знаходжаньне ў грамадзкіх месцах з 22 да 6 гадзін у верасьні-траўні і з 23 да 6 гадзін у чэрвені-жніўні. У выпадку парушэньня на бацькоў ці асоб, якія іх замяняюць, будзе накладацца штраф у памеры да трох мінімальных зарплат.

**А.ДУК.**

## ПАМЯЦЬ ПРА ГРУНВАЛЬД ЖЫВЕ

**15 ліпеня ў Горадні па ініцыятыве дэмакратычных арганізацый горада адбудзецца сьвяткаваньне 585-ых угодкаў Грунвальдзкай бітвы.**

У рамках урачыстасьці пройдуць імша, сьвяточнае шэсьце ад плошчы Тызенгаўза да Новага замку, адкрыцьцё і асьвячэньне помніка Вітаўту Вялікаму, паседжаньне ў тэатры лялек, а таксама канцэрт мастацкіх калектываў з Летувы і Беларусі.

**Ул.інф.**

## КУПАЛЬЛЕ...

У мінулыя выхадныя на традыцыйным месцы побач з Нёманам сьвяткавалася Купальле. Яго арганізатарамі ізноў выступілі гарадзенскі культурна-асьветніцкі фонд "Бацькаўшчына" і гарадзкая рада Беларускага Народнага Фронту. Весялілася ў асноўным моладзь: сустракалі князя, скакалі праз вогнішча, шукалі Папараць-кветку, сьпявалі песьні разам з хорам "Бацькаўшчына". Сьвята ўдалося, толькі, як і ў мінулыя гады, стапталі лецішча старому сябру Фронту - спадару Амялішку, які ўжо некалькі год запар гасьцінна пакідае яго для гасьцей.

Апроч беларускай моладзі, людзей з навакольных лецішчаў і вёсак, на сьвяце прысутнічалі госьці з Харватыі.

**М.М.**

## СТАРАЯ ПЛЯЦОЎКА - З МАЛАТКА

Фактычна з малатка пайшла частка старой пляцоўкі завода "Радыёпрыбор", што па вуліцы Маладзёжнай у Горадні.

На жаль, назва новага ўласьніка трымаецца ў строгім сакрэце. Па неправеранных чутках, гэта адзін з камерцыйных банкаў Горадні. Таксама ёсьць інфармацыя, што за адзін квадратны метр плошчы новы ўласьнік заплаціў па 200 доляраў ЗША.

Грошы, атрыманыя ад продажу, мяркуецца накіраваць на пагашэньне даўгоў прадпрыемства.

Рабочыя на агульным сходзе падтрымалі гэтую фінансавую зьдзелку.

**Г.Д.**

### ВЫЙСЬЦЕ АДНО – АДКЛЮЧЭНЬНЕ ТЭЛЕФОНУ

За неразьлікі з тэлефаністамі, разьліковая група гарадзенскай аўтаматычнай тэлефоннай станцыі раз-пораз адключае на гарадзенскіх прадпрыемствах тэлефоны. Нядаўна на некалькі дзён былі адключаны тэлефоны на заводзе "Радыёпрыбор", фабрыцы пальчатачных вырабаў, мэбельнай фабрыцы па вуліцы Герасімовіча, ВА "Хваля".

Па інфармацыі, атрыманай карэспандэнтам "Пагоні" у аддзеле тэлефоннай станцыі па разьліку з прадпрыемствамі і ўстановамі, самымі злоснымі неплацёжнікамі зьяўляюцца ў Горадні камерцыйныя структуры і малыя прадпрыемствы.

**Г.ЗДАНЕВІЧ.**

## РАСЕЙСКІЯ ІКОНЫ ЗАТРЫМАНЫ НА БЕЛАРУСКАЙ МЫТНІ

**27 чэрвеня прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі сустрэліся з работнікамі гарадзенскай мытні.**



Журналісты на свае вочы ўбачылі частку буйнейшай, затрыманай за апошні час партыі ікон, якую спрабавалі перапраўляць за мяжу пяць грамадзян Расеі. Яны хацелі вывезьці 19 чэрвеня на двух аўтамабілях 183 абразы, па іх словах, набытыя ў Маскве і Валагодзкай вобласьці, але ня ведалі, што КДБ у курсе іх планаў. І падчас дагляду на пункце мытнага афармленьня "Брузгі-2" у іх былі знойдзены абразы, напісаныя і аздобленыя майстрамі 19 стагоддзя.



Згодна заключэньню мастацтвазнаўцаў, канфіскаваныя іконы, ацэначны кошт якіх складае прыкладна 99 мільёнаў рублёў, уяўляюць сабой вялікую культурную, гістарычную і мастацкую каштоўнасьць. Таму іх вываз за межы без сьпецыяльнага дазволу Міністэрства культуры і друку краіны забаронены. Як паведаміў дазнавальнік па справах аб кантрабандзе Гарадзенскай мытні Ю.Сянько, зараз канфіскаваныя абразы знаходзяцца на складзе мытні, пакуль ня вырашыцца іх далейшы лёс.

**А.ДУК.**

**ФАТАГРАФАВАЎ Я.ВАНЮКЕВІЧ.**

## СТРОГА САКРЭТНА

Ад нядаўняга часу для тых, хто жадае патэлефанаваць у Сьвята-Багародзіцкі кляштар Горадні, мясцовая даведка адмаўляе даць нумар тэлефону кляштару, спасылаючыся на тое, што абаненцкія нумары тэлефонаў кляштару забараніраваны.

Настаяцельніца кляштару матушка Гаўрыіла пракаментавала гэта так: "Кляштар павінен займацца духоўнымі справамі, а ня траціць час на сьвецкія размовы".

**Вільгельм МАРЦІН.**

## АДЗНАЧЫЛІ ТРОХГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

Днямі вернікі праваслаўнай Гарадзенска-Ваўкавыскай эпархіі адзначылі трохгадовы юбілей Гарадзенскага Сьвята-Багародзіцкага жаночага кляштару. З гэтай нагоды ў галоўнай царкве кляштару адбылася ўрачыстая імша з крыжовым шэсьцем.

Ва ўрачыстасьцях з адслужэньнем сьвятой імшы прыняў удзел Патрыярршы Экзарх на Беларусі Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт.

## ГАРАДЗЕНЦЫ СЬПЯВАЮЦЬ

У Менску адбыўся трэці фестываль нацыянальнай паэзіі і музыкі.

У конкурсе маладых вакалістаў узялі ўдзел гарадзенскія сьпевакі Сяргей Квашнін і Ларыса Яфімчык. Сяргей у прыватнасьці выканаў на конкурсе песьню гарадзенскага кампазітара А.Чапчыца на словы М.Багдановіча "Краю мой родны, як выкляты Богам".

І Сяргей, і Ларыса сталі дыпламантамі фестывалю.

## ЛОДКА - СПОСАБ ПЕРАПРАЎКІ НЕЛЕГАЛАЎ ЗА МЯЖУ

Дзьве групы парушальнікаў колькасьцю 74 і 33 чалавекі на беларуска-летувіскай мяжы затрымалі па сігналу беларускіх памежнікаў іх летувіскія калегі.

Парушальнікі, дарослыя і дзеці, - пераважна выхадцы з Аўганістану і Іраку.

На летувіскі бок гэтыя людзі перапраўляліся праз Нёман на вёсельных лодках пры дапамозе мясцовых жыхароў.

## МЫТНІКІ РАСЕІ ПРАЦУЮЦЬ НА СТРОГА ВЫЗНАЧАНЫХ КПП

Толькі на трох з шасьці памежных кантрольна-прапускных пунктах на Гарадзеншчыне працуюць расейскія мытнікі. Няма пакуль што суседзяў на мытным КП Воранава, Ашмяны, Астравец, што, па словах намесьніка начальніка Гарадзенскай рэгіянальнай мытні спадара І.Х.Маркевіча, адпавядае літары беларуска-расейскага мытнага пагадненьня.

**Г.А.**



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## РЭГІЯНАЛЬНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**24 чэрвеня ў Горадні адбылася рэгіянальная канферэнцыя БНФ "Адраджэньне" Гарадзенскай і Берасьцейскай абласьцей.**



На канферэнцыі былі разгледжаны вынікі выбараў і рэферэндуму і задачы Фронту ва ўмовах таталітарнага рэжыму.

Канферэнцыя пагадзілася з заключэньнем міжнародных камісій пра недэмакратычны характар выбараў і пацьвердзіла выснову Сойму БНФ аб незаконнасьці рэферэндуму і непрызнаньні яго вынікаў.

Апладысьментамі сустрэлі ўдзельнікі канферэнцыі прапанову аб пачатку "Акцы грамадзянскай непавагі да прэзідэнта і новай сімволікі".

На канферэнцыі прысутнічаў і выступаў старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк.

## ПАСТАНОВА

**рэгіянальнай канферэнцыі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Гарадзенскай і Берасьцейскай абласьцей**

Падводзячы вынікі дыскусіі аб рэферэндуме і выбарах у Вярхоўны і мясцовыя Саветы рэгіянальная канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Гарадзенскай і Берасьцейскай абласьцей адзначае, што асноўнай стратэгічнай мэтай Фронту застаецца нацыянальна-дэмакратычнае адраджэньне Беларусі. Барацьба за ўмацаваньне дзяржавы застаецца адной з галоўных тактычных задач Фронту.

Лічачы неканструктыўнымі спрэчкі па пытаньню: прайграў Фронт на выбарах ці перамог правячы рэжым - канферэнцыя адзначае, што ідэі Фронту не былі падтрыманы большасьцю насельніцтва. За прайшоўшы пасьля прэзідэнцкіх выбараў час колькасьць прыхільнікаў Фронту значна не павялічылася. Гэта зьявілася наступствам таго, што асноўныя ідэі Фронту не былі даведзены ў даступнай форме да пераважнай большасьці насельніцтва, якое так і не змагло ўбачыць у іх аб'ектыўную выгаду для сябе.

У гэтых абставінах канферэнцыя зьвяртае ўвагу кіраўніцтва Фронту на неабходнасьць пераходу да прагматычных форм дзейнасьці, накіраваных у першую чаргу на барацьбу за падтрымку большасьці грамадзян Беларусі.

Канферэнцыя падтрымлівае ідэю аб'яднаньня ўсіх здаровых сілаў нашага грамадства вакол ідэі захаваньня беларускай дзяржаўнасьці.

Канферэнцыя лічыць немэтазгодным правядзеньне ў бліжэйшы час значных структурных і кадравых зьменаў у кіраўніцтве Фронту. Усе сілы і намаганьні павінны быць накіраваны на давядзеньне асноўных эканамічных і сацыяльных мэтаў Народнага Фронту да кожнага жыхара Беларусі.

Жыве Беларусь!

# «НЕПАРОДЗІСТЫ» ПРЭЗІДЭНТ

**Днямі наш прэзідэнт Лукашэнка ўразіў гледачоў Расейскага тэлеканалу сваёй "эрудыцыяй" і рэзкасьцю выказваньняў. Напрыклад, ён адразу папярэдзіў, што з'яўляецца "непародзістым" прэзідэнтам, бо выйшаў "з гушчы народу". І, што вельмі знамянальна, Лукашэнка без усякай двухсэнсоўнасьці прызнаўся: "Я—сторонник очень жесткой власти" і дадаў дзеля большай пераканаўчасьці—"Я привержен очень жесткой власти".**

Далей беларускі прэзідэнт па ўласнай завядзёнцы пачаў стварэць сабе вобраз бескампраміснага змагара з інфляцыяй, для барацьбы з якой, аказваецца, "ня трэба заканчваць акадэміі, тым больш за граніцай". Намёк на Ягора Гайдара цалкам відавочны. Аднак, што датычыць самога Лукашэнкі, дык ён акадэмію ўсё ж скончыў, але сваю мясцовую - Горацкую сельскагаспадарчую. Дзякуючы гэтаму ён у свой час і дамогся пасады дырэктара саўгасу. Так што крыху злукавіў Аляксандр Рыгоравіч перад расейскімі тэлегледачамі. Дарэчы, схема прамоваў прэзідэнта даўно добра вядомая гледачам беларускім. Ня быў выключэньнем і апошні выступ. Калі ёсьць змагар, г. зн. сам прэзідэнт, павінны быць і ворагі, супраць якіх яму даводзіцца змагацца. Як толькі ён пачаў душыць інфляцыю, адразу "поднялся вой". Трэба думаць, з боку камерцыйных банкаў і структураў, якія, па словах Лукашэнкі, увесь час жульнічаюць.

Аднак, не зважаючы на ўсе цяжкасьці і супраціў, прэзідэнту ўдалося пакуль перамагчы, паколькі:"В республике меня побаиваются". Аднчасова баіцца і сам прэзідэнт. Спашлемся на яго ўласныя словы: "Ты просыпаешься, возле тебя - вооруженный человек. Ты выбегаешь на зарядку в сопровождении вооруженных людей". Нават працуючы ва ўласным кабінеце, "бедны" прэзідэнт увесь час адчувае прысутнасьць недзе паблізу ўзброеных людзей. Манія перасьледу чэпка трымае ў сваіх абдымках Аляксандра Рыгоравіча. Зноў, дзеля пераканаўчасьці, спашлемся на яго ўласныя словы, сказаныя ім у гэтай тэлеперадачы: "Если бы Лукашенко не стало сейчас... Умер бы или застрелили, не дай бог..."

Так, сапраўды, ня дай бог. Бо тады вялікі рускі народ не дачакаецца такога станоўчага ў любым сэнсе прэзідэнта, які не зьбіраецца "насиловать" экономику, які "всегда убеждал и воспитывал народ" і які ў рэшце рэшт дагэтуль не "испортился" ад сваёй бязьмежнай улады і нават ня п'е. Намёк на Ельцына ўсе гледачы выдатна зразумелі.

**Алег ЛУКАШЭНКА.**

## НОВЫ ЛІДАР БЕЛАРУСКІХ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

**Першага ліпеня ў Менску завяршыў сваю работу чарговы зьезд Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.**

У гэты дзень вырашаліся галоўным чынам кадравыя пытаньні і галоўнае з іх - выбары старшыні партыі. Да зьезду разглядаліся ў якасьці магчымых прэтэндэнтаў Алег Трусаў і Анатоль Гурыновіч. Але падчас вылучэньня ўзьніклі яшчэ дзьве кандыдатуры: старшыні БЗВ Міколы Статкевіча і былога міністра замежных справ Пятра Краўчанкі. Пётр Краўчанка сваю кандыдатуру зьняў. Першы тур галасаваньня даў нечаканыя вынікі: Мікола Статкевіч - 48 галасоў, Алег Трусаў - 37, Анатоль Гурыновіч - 5. Напэўна, значную ролю ў гэтым адыграла некалькі фактаў: і вынікі выбараў у Саветы ўсіх узроўняў, і ўнутраныя разнагалосьсі ў партыі , і тое, што кандыдатуру Статкевіча вылучыла правінцыя (дэлегат ад Пінска). Правінцыя, прынамсі Гарадзенская вобласьць, за Статкевіча і галасавала. Перад другім турам Анатоль Гурыновіч заклікаў сваіх прыхільнікаў таксама галасаваць за Статкевіча.

Адказваючы на тэлефоннае пытаньне пра будучыя стасункі з Беларускім згуртаваньнем вайскоўцаў новы лідэр БСДГ сказаў, што сумяшчаць гэтыя дзьве пасады яму будзе цяжка, але вырашаць гэта будзе каардынацыйная Рада БЗВ.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## КДБ ПАПЯРЭДЖВАЕ З.ПАЗЬНЯКА

**Камітэт Дзяржаўнай бясьпекі папярэдзіў Старшыню Беларускага Народнага Фронту спадара Зянона Пазьняка аб "наяўнасьці аператыўнай інфармацыі" пра магчымы замах на яго жыцьцё.**

З гэтай нагоды сябры Беларускага Народнага Фронту арганізавалі ахову спадара Пазьняка.

(Э.Х.)

## ПРАКУРАТУРУ ЗАЦІКАВІЛІ ШАРЖЫ

**Пракуратура Беларусі вывучае абставіны, зьвязаныя з публікацыяй у газеце "Имя" некалькіх палітычных шаржаў на кіраўнікоў рэспублікі.**

Галоўнаму рэдактару выданьня і аўтару малюнкаў было прапанавана зьявіцца ў пракуратуру для гутаркі. Запрашэньне насіла неабавязковы характар, бо афіцыйна пакуль ніякага разьбіральніцтва наконт гэтага не праводзіцца. Супрацоўнікі рэдакцыі тым ня менш не выключаюць магчымасьці пачатку крымінальнага перасьледаваньня, як гэта ўжо здарылася з газетай "Свабода", якая надрукавала паэму "Лука Мудзішчаў - прэзідэнт".

СІМ

# НА ЗЬМЕНУ ПРЫХОДЗІЦЬ МОЛАДЗЬ

**Палітычнае становішча Беларусі нельга назваць нармальным. Сьпектр партыяў і рухаў падзяляецца ў нас на два буйныя лагеры: беларускі (ад груповак нацыяналістычнай моладзі да ліберлаў (ПНЗ, АДПБ) і сацыялістаў (БСДГ, Партыя працы і г.д.) і прарасейскі (камуністы, расейскія фашысты з РНЕ, ЛДПР, панславісты СС "Белая Русь", аграрыі, ветэраны, Саюз афіцэраў). Найбольш уплывовая сіла - БНФ, гэта паказваюць усе апытаньні грамадзкасьці, але і ён, займаючы 1-е месца ў рэнтынгу папулярнасьці, набірае каля 20 адсоткаў. Безумоўна, расейскі лагер будзе існаваць толькі ў выпадку аднаўленьня расейскай імперыі ці СССР. Беларускі - наадварот, толькі ў выпадку незалежнасьці краіны. Нехта мусіць зьнікнуць. Хто - гэта будзе залежаць ад разгортваньня падзеяў.**

Я ж хачу спыніцца на беларускім табары. У ім ёсьць сацыялісты, лібералы (ажно 3 партыі ці 4), хадэкі (2 ці 3), кансерватары, нацыяналісты. Апошня - самыя слабыя і непрыкметныя. Доўгі час у Беларусі існавала парадаксальная сітуацыя, калі правей за БНФ стаяла толькі адна партыя - НДПБ. Гэта працягвалася 3-4 гады і бяздзейнасьць, інэртнасьць нацдэмаў прывяла да непажаданага выніку - людзі ведаюць адно: БНФ - гэта не народнікі, кансерватары, а нацыянал-радыкалы, нацыяналісты, экстрэмісты. НДП ж ухілілася ад рэфармаваньня правага руху і зьлілася з БНФ, што прывяло, як яшчэ раз трэба згадаць, да ненармальнага становішча ў палітычным сьпектры.

Сітуацыя пачала крыху зьмяняцца ў 1994-95г.г., калі ўзьніклі правыя - Беларуская Нацыянальная Партыя, аргкамітэт Беларускай партыі Свабоды, БНА "Правы Рэванш", Арганізацыя - Нацыянальнае дзеяньне.

БНП на чале з А.Астапенкам узьнікла як трансфармацыя часткі сяброў НДП праваслаўнай, а таксама радыкальнай арыентацыі. Сумесна з "Правым Рэваншам" БНП правяла 26-27.11.94г. у Віцебску I зьезд Беларускіх Нацыяналістаў, які стаў адметнай і шумнай падзеяй у палітычным жыцьці Беларусі.

"Правы Рэванш" быў створаны вясной 1994 году як нацыяналістычная арганізацыя, пераважна моладзі ад 20 да 25 гадоў. Лідар "ПР" Славамір Адамовіч заявіў, што галоўная мэта БНА - супраціўленьне расейскаму фашызму РНЕ, ЛДПБ, ССБР у Беларусі.

Беларуская партыя Свабоды з С.Высоцкім на чале заявіла пра сябе таксама вясной-летам 1994 году (шэсьце з паходнямі 27.07.94г. сумесна з "Правым Рэваншам", пікеты і асобныя заявы ў друк), як нацыянальная кансерватыўная партыя. Лозунгі былі ўзяты на ўзбраеньне даволі сьмелыя: "Беларусь - вышэй за ўсё!" і "Беларусь для беларусаў!". Жорсткае стаўленьне да памылак БНФ, арыентацыя ў вонкавай палітыцы на Нямеччыну - асаблівасьці БПС. У лютым БПС стала выдаваць газету "ZA VOLU" (NN 1,2 люты-красавік 95г.).

Трэба адзначыць, што правы рух паказаў сваю персьпектыўнасьць, напрыклад, на Украіне. Там досыць моцныя арганізацыі УНА-УНСО, Кангрэс украінскіх нацыяналістаў, Украінская кансерватыўная рэспубліканская партыя, Украінская рэспубліканская партыя і г.д. маюць разам больш за 20 дэпутатаў у ВР Украіны і ўзялі на сябе электарат, які, напрыклад, не ўспрымае РУХ.

На Беларусі нацыяналістычны рух мае сваю далёкую гісторыю. Гэта Беларуская Незалежніцкая Партыя, Беларускі Нацыянальны Фронт, пасьляваенная партызанка Вызвольнай Арміі "Чорны Кот". Тут такія слаўныя для беларусаў імёны як В.Гадлеўскі, М.Вітушка, У.Родзька. Сёньня ім на зьмену прыходзіць маладое пакаленьне беларусаў, для якіх галоўным ёсьць лозунг "Беларусь - вышэй за ўсё!". Падмуркам гэтага, мне здаецца, зьяўляецца ўся Заходняя Беларусь.

**С.ВАСІЛЕНКА, г.Менск.**





ГРАМАДЗТВА

# «КУСАЧЫЯ» ДАРЫ ПРЫРОДЫ

**На дварэ лета, і гарадзенскія гандляры прапануюць шмат духмяных апельсінаў, сакавітых трускалак, апетытных памідораў. Хочацца ўсё паспрабаваць, але ж цэны...**

Ня кожнаму па кішэні можа быць бульба новага ўраджаю, за кілаграм якой просяць 6-8 тысяч рублёў. Дзешавей (3 тысячы) абыйдзецца мінулагодняя. Крыху паменшылася цана на памідоры, кілаграм якіх можна набыць за 15 тысяч. Можна пачаставацца і морквай, пучок якой, у залежнасьці ад велічыні плоду, каштуе ад адной да трох тысяч рублёў. Вялікім попытам карыстаюцца агуркі і капуста, цана на якія значна ўпала і складае адпаведна, дзьве з паловай і тры тысячы "зайцоў" за кілаграм. Ёсьць і цыбуля, кілаграм якой каштуе 9-10 тысяч, затое штука часнаку - ажно тры тысячы.

Што датычыць садавіны, дык яна ўся прывазная. Цана кілаграму апельсінаў вагецца ад 12 да 14 тысяч рублёў, цытрынаў - ад 14 да 18 тысяч, яблыкаў - ад 25 да 30 тысяч. Адна штукаківі пацягне як мінімум на 3 тысячы.

Значна падзешавелі бананы, цана аднаго кілаграму якіх складае 9-11 тысяч рублёў.

Пахмурнае надвор'е з дажджамі не магло не паўплываць на цану на трускалкі. І калі яшчэ два тыдні таму дзесяцілітровае вядро з імі можна было набыць за 70 і нават 50 тысяч, то цяпер менш чым на 110 ці нават на 140 няма чаго і разьлічваць. Яшчэ болей каштуюць чарэшні - вядро - 180 тысяч. З-за высокай цаны "дробным оптам" прадаюць маліну і чарніцы, за кілаграм якіх просяць па 18 і 25 тысяч рублёў адпаведна.

Аматарам грыбоў лепей самім схадзіць на ціхае паляваньне, бо нарыхтоўчыя канторы скупляюць лісічкі па 32.800 рублёў, а прыватныя гандляры прадаюць яшчэ даражэй.

А.ДУК.

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ Ў ЦАНЕ

На цэнтральным гарадзкім торжышчы Горадні некаторыя гандляры спрабуюць зрабіць бізнэс на продажы бел-чырвона-белых сьцягоў. За штандар памерам 100 х 200 см прадаўцы просяць ад 80 да 100 долараў ЗША, штандар памерам 60 х 100 см каштуе ў сьпекулянтаў 50-60 "зялёных".

Г.КАСЬЯНОВІЧ.

# «ГРОДНА-КАЛЕГІЮМ» – ГЭТА ШЛЯХ У ЭЎРОПУ

**З красавіка 1995 году ў Горадні пачаў дзейнічаць Беларускі цэнтр кваліфікаваных сьпецыялістаў "Гродна-калегіюм".**

Галоўнай мэтай гэтага грамадзкага ўтварэньня зьяўляецца аб'яднаньне намаганьняў кваліфікаваных сьпецыялістаў розных сьфер дзейнасьці, незалежна ад формаў уласнасьці, якія на сабе адчулі ўвесь цяжар эканамічнага крызісу. Каб разам, сумеснымі намаганьнямі шукаць шляхі выхаду для паляпшэньня свайго матэрыяльнага дабрабыту, павелічэньня духоўнага і інтэлектуальнага ўзроўню.

Сіламі сяброў Цэнтру на ўласныя сродкі арганізаваны курсы па вывучэньню замежных моў, гісторыі Беларусі, а таксама гістарычных і культурных традыцый краін Заходняй Эўропы, дзе будуць праходзіць прафесійную стажыроўку сябры БЦКС "Гродна-калегіюм".

Зараз на Гарадзеншчыне ствараюцца філіі Цэнтру ў тых населеных пунктах, дзе колькасьць жыхароў перавышае 500 чалавек. Пры філіях будуць працаваць мясцовыя цэнтры навукова-тэхнічнай інфармацыі, будзе створана сетка гандлёвых кропак, у якіх сябры БЦКС змогуць набыць даволі танныя спажывецкія тавары з краін Заходняй Эўропы. Будуць арганізаваны сустрэчы з прадстаўнікамі дзелавых колаў далёкага замежжа, якія падзеляцца сваім багатым вопытам і на справе дапамогуць у арганізацыі ўласных малых прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі і па вырабу невялікіх партый прамысловых тавараў і г.д.

Вялікая ўвага будзе ўдзелена культурна-асьветніцкім мерапрыемствам.

Усіх, каго зацікавіла інфармацыя па дзейнасьці Цэнтру, зьвяртацца на тэлефоны: 31-84-49 з 9.00 да 17.00 гадзін; 31-86-41 з 20.00 да 22.00 гадзін. Вельмі спадзяемся на парады і дзелавую падтрымку нашых суайчыньнікаў з блізкага і далёкага замежжа, што паслужыць вялікай справе ўваходу нашай Бацькаўшчыны ў цывілізаваную супольнасьць.

Мікола ВОРАН,
сябра "Гродна-калегіюм"

# ЗА ІНШАМАРКУ НЕАБХОДНА ПЛАЦІЦЬ РЭКЕЦІРУ, ПОЛЬСКАМУ ПАЛІЦЫЯНТУ І ДЗЯРЖАВЕ

**Прафесія аўтаперагоншчыка зараз, бадай што, адна з самых папулярных у Горадні сярод моладзі. Пра яе станоўчыя і адмоўныя бакі карэспандэнт "Пагоні" размаўляе з Віталем Букіеўскім, які мае ў гэтай справе больш як трохгадовы досьвед.**

- Калі хто думае, што гэтая справа лёгкая, прыбытковая, то я вымушаны дадаць, што яна яшчэ і вельмі небясьпечная. Небясьпечная па некалькіх акалічнасьцях. Першае - гэта рэкэт, другое - гэта магчымыя аварыі на дарогах эўрапейскіх краін, трэцяе - гэта няўдалы продаж аўтамашыны тут у Горадні.

**- Віталь, раскажы пра ўсё крыху падрабязьней.**

- Што казаць, раней старыя маркі легкавікоў куплялі пераважна ў Нямеччыне. Так бы мовіць на кілаграмы. Кошт іх налічваў 500-700 дойчмарак. Прыгоніш такі легкавік у Горадню, зробіш яму "касьметычны" рамонт і прадасі за тысячу ці болей долараў ЗША. Прыбытак відавочны. Цяпер жа, калі аўталом вывезены ня толькі з тэрыторыі Нямеччыны, а і ўсёй астатняй Эўропы часы зьмяніліся. Той шалёны бізнэс мінуў. Каб выгадна прадаць легкавік, які ты купіў у замежжы, за дзьве-тры тысячы долараў, неабходна добра пашчыраваць тут на месцы. Я маю на ўвазе дамовіцца з пакупнікомпра марку пажаданай аўтамашыны, колер, год выпуску. Гэта што датычыць самой мэты такой працы. Але і далей ня ўсё так гладка. Той, хто пераганяе аўтамашыны, заўжды мае пры сабе ў рэзерве 200-300 зялёных, каб заплаціць імі рэкеціру. Не заплаціць нельга, бо апынешся на чужым аўтабане з машынай, якая будзе мець вельмі жахлівы выгляд. Выбітыя фары, шкло, праколатыя апоны, пагнутая абліцоўка...

**- Ці можна неяк весьці перамовы з рэкецірамі?**

- Можа і можна, але ўсе стараюцца хутчэй з імі разьлічыцца і пазбавіцца праблемы. На жаль, гэта ня ўсе цяжкасьці. Перагоншчык за мяжою не абаронены ніякім законам. З яго могуць спагнаць штраф у любы момант. Асабліва завіхаюцца тут паліцыянты Польшчы. На любым пастарунку да аўтагоншчыка ў іх ёсьць свае "прафесійныя" прычэпкі. То ты хуткасьць перавысіў, то паехаў пад знак, то твой аўтамабіль экалагічна небясьпечны. За ўсё выпісваецца штраф. Бывае, што паліцыянты патрабуюць купіць ім піва ці даць 30-40 долараў у якасьці "пазычкі". І кожны дае, бо няма куды дзецца. І гэтыя праблемы не спыняюцца нават на мяжы. За тое, што мытнікі растаможаць твой набытак, неабходна заплаціць 300-500 долараў падатку. І тут не ўсё роўна. Падатак залежыць ад магутнасьці рухавіка, года выпуску машыны. Потым выдаткі ў ДАІ на рэгістрацыю. Як бачыш, мая прафесія, калі можна так назваць, ня мёд.

**- На мяжы пачалі дзейнічаць новыя мытныя правілы - расейскія. Твае меркаваньні на гэтыя зьмены.**

- Ня ведаю, што і казаць. Мне здаецца, што камусьці на самым версе захацелася атрымаць дадатковыя сродкі за наш лік. Думаю, што тут наўрад ці будзе посьпех. Ад гэтага толькі пацерпім мы. Палічыце, колькі людзей сёньня маюць працу дзякуючы перагону аўтатранспарту. Мне падаецца, што прыкладна некалькі дзесяткаў тысяч. Тут неабходна прыгадаць і тых людзей, што абслугоўваюць на Беларусі аўтаторжышчы, станцыі тэхабслугі, аўтакрамы, што сьпецыялізуюцца на продажы аўтазапчастак. Пакінуць гэтых людзей бяз працы, значыць проста абакрасьці іх. І гэта адбудзецца, калі праз беларуска-польскую мяжу пачнуць наўзамен замежных марак пераганяць толькі рээкспартныя "Жыгулі" ды "Масквічы".

Г.РЭЙМАНТОВІЧ.

# НАВОШТА МАНАШКАМ ШАРМ?

**Праваслаўныя колы Горадні актыўна рыхтуюцца да сустрэчы з патрыярхам "всея Руси" Алексіем. У нядаўнім інтэрв'ю "Литературной газете" яго Сьвяцейшаства выказаў асаблівую заклапочанасьць станам спраў у Заходняй Беларусі. Па меркаваньню ідэолагаў Расейскай праваслаўнай царквы, візіт Алексія павінен пасрпыяць вяртаньню ва ўлоньне "исконно русских земель".**

Рэдкая ажыўленасьць назіралася апошнімі тыднямі ў жаночым манастыры Раства Багародзіцы, што месьціцца ў былым уніяцкім кляштары. Увішныя бабулькі з рэдкай самаахвярнасьцю шчыравалі ля муроў - узьбіраліся на недасяжальную вышыню і бялілі сьцены. Побач цягалі мэблю навуковыя супрацоўнікі музея гісторыі рэлігіі - ігуменьні манастыра вельмі карціць выпхнуць хутчэй "иноверцев". Нагадаем, што "халодная вайна" паміж праваслаўнай Эпархіяй і музеем доўжыцца ўжо каля трох год. Пры маўклівым патураньні і спрыяньні ўладаў музей быў фактычна выцесьнены з Базыльянскага комплексу. У выніку горад страціў ня толькі адмысловую культурную ўстанову, але і патэнцыяльны экуменічны цэнтр, так патрэбны пры нашай поліканфесійнасьці.

Між тым, новая гаспадыня кляштару - матушка Гаўрыіла - пачуваецца даволі разьняволена. Вынікі "гаўрыіляды па-гарадзенску" даволі значныя: археалагічныя калодзежы-шурфы, што дэманстравалі падмурак Прачысьценскай царквы XII ст, засыпаны; ля сьцен сабора зараз буяе агародніна; на дах, як дуля, села бляшаная "цыбуля"; "цела" царквы пасечана і прапята шматлікімі жалезнымі крукамі - храм падперазалі пасам з металёвых трубаў (відаць, кожная кельля зараз будзе забясьпечана газам). Можна прадбачыць далейшыя крокі "перестройки". Кветнік канчаткова саступіць месца бульбяной плантацыі, шмат што перафарбуюць і абавязкова што-небудзь прыбудуюць ва ўлюбёным стылі "вампір". Зьява гэтая зеканамерная. Неяк надарылася наведаць Заслаўе. Мясцовы бацюшка (былы камсамольскі сакратар) загадаў перафарбаваць вокны і падмурак колішняга кальвінскага збору. У выніку самавітую бела-чырвоную гаму "аздобіў" атрутна-сіні колер (мо прosta бязгустоўнасьць, а, мажліва, і сьвядомая стылізацыя пад расейскі сьцяг). Складаецца ўражаньне, што РПЦ на Беларусі - гэта наступ гвалту плюс газіфікацыя ўсіх храмаў. І прыпыніць гэты варварскі "беспредел" ня ў стане любая ўлада - каму хочацца атрымаць таўро бязбожніка?

Мяжы ж палёту царкоўнай фантазіі няма. Нядаўна ў мурах гарадзенскага манастыра створана малое прадпрыемства "Шарм". Мяркуючы па назве, ігуменьні - даволі маладой жанчыне - спатрэбілася дадатковая вабнасьць. Вядома, што манастыр знаходзіцца на асаблівым фаворы ў мітрапаліта Філарэта. Сюды ён любіць прыводзіць саноўных гасьцей (узгадаем хаця б самага славутага - Францавіча). А цяпер прыедзе патрыярх. Трэба думаць, што паміж развагамі падчас казаньняў пра "общую купель", шаноўныя герархі будуць "предаваться" і традыцыйным "трапезам". Жаночы манастыр - найбольш прыдатнае для гэтага месца.

Нашае грамадзтва, здаецца, незваротна мінула часы разьвітога атэізму і паваярнулася на шлях адраджэньня Веры. Але як часта пад лозунгамі вяртаньня сьвятыняў канфесіям, за харугвамі набожнасьці хаваюцца звычайныя людзкія хціваcьць ды крывадушнасьць.

Хельмут КАМЕНСКІ.

## ВЕРТЫКАЛІ СКРЫЖАВАЛІСЯ

**Умяшаньне прадстаўнікоў адміністрацыі прэзідэнта спатрэбілася, каб патушыць канфлікт паміж Лідзкімі гарвыканкамам і райвыканкамам, які ўзьнік вакол калгаснага рынку.**

Справа ў тым, што гарадзкія ўлады спасылаючыся на "патрабаваньні працоўных" вырашылі перанесьці рэчавы рынак на іншае месца. Сітуацыя сапраўды вымагала таго. Калгасны рынак даўно не зьмяшчаў усіх жадаючых. Але рэалізацыя, як заўжды, пайшла па схеме "не пушчаць і выганяць", што з дапамогай міліцыі і было пасьпяхова зьдзейсьнена. Аднак рабіць гэта гарадзкія ўлады, мякка кажучы, не мелі ніякага права, бо тэрыторыя рынка належыць не гораду, а раёну, які арэндуе тэрыторыю ў горада і спраўна плаціць арэндную плату. Такім чынам гарадзкія ўлады ўлезьлі не ў сваю парафію, пра што ім і патлумачылі людзі Яго Вялікасьці.

Яраслаў ГРЫНКЕВІЧ.

## БЕЛАВЕЖА ПРЫМАЕ НАВУКОВУЮ КАНФЕРЭНЦЫЮ

Сёньня і заўтра ў мястэчку Белавежа, што на Беласточчыне, пройдзе беларуска-польская навуковая канферэнцыя, якая прысьвечана беларуска-польскім навуковым, культурным і гістарычным зносінам.

Канферэнцыя арганізавана Беларусім Саюзам Польшчы і Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў. Да ўдзелу ў працы канферэнцыі запрошаны і навукоўцы з Горадні.

Больш падрабязна аб выніках канферэнцыі чытайце ў бліжэйшых нумарах "Пагоні".

Г.С.



ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

СЯРГЕЙ ЁРШ

# ПАСЬЛЯВАЕННЫ СУПРАЦІЎ БАЛЬШАВІЦКІМ АКУПАНТАМ НА БЕЛАРУСІ

(Працяг. Пачатак у N23,24)

## 4. «МЫ ВЫЙДЗЕМ ХУТКА ІЗ ЛЯСОЎ...»

Напружаная міжнародная сітуацыя давала надзею партызанам на хуткую перамогу іх справы. "Мы выйдзем хутка із лясоў...", - сьпявалі беларускія лесавікі ў сваім партызанскім маршы. Іхныя надзеі падтрымоўвала і падпольная прэса, прагназаваўшая хуткі пачатак вайны Захаду з СССР.

### ТРОХІ ПРА АРГАНІЗАЦЫЮ «ЧОРНАГА КАТА»

Як ужо адзначалася, "Чорны Кот" меў добра законьспіраванае падпольле ў гарадах і вёсках. Падпольшчыкі працавалі ў міліцыі, дзяржбясьпецы, войску, савецкіх установах, друкарнях. Менскае падпольле ў студзені 1946 году падпаліла будынак клубу НКДБ. Віцебскае падпольле замінавала вайсковую палітычную школу. Нацыянальнае падпольле наладзіла выпуск фальшывых дакумантаў, якія шырока выкарыстоўваліся лесавікамі.

Партызанскія аддзелы "Чорнага Ката" былі інтэрнацыянальныя. Акрамя чыста беларускіх атрадаў, былі і летувіскія, латыскія, украінскія, а таксама нямецкія батальёны "Цэпэлін" "Эдэльвейс", "Вэрвольф". У "Чорным Каце" ваявалі немцы-уцекачы з лагераў для ваеннапалонных, а таксама жыхары Усходняй Прусіі, якія засталіся без Бацькаўшчыны. Агульная колькасьць жаўнераў і афіцэраў "Чорнага Ката" некаторымі яго ўдзельнікамі ацэньвалася ў 45-50 тысяч чалавек.

Кожны партызанскі аддзел меў свой назоў, які звычайна быў псеўдам каманьдзіра. Калі гінуў каманьдзір, дык ягоны наступнік пераймаў ягоную мянушку. Былі і выключэньні. Партызаны былі людзьмі з гумарам. Так, адзін атрад, які дзейнічаў на Віленшчыне, называўся "Мацюкоўская пляцоўка".

На чале "Чорнага Ката" стаяў Галоўны штаб, якім камандаваў ген.Вітушка і два ягоныя намесьнікі, Ахрэм і Міхась Шукайловіч (рэдактар газэты "Душы бальшавіцкую гадзіну!"). Генерал Вітушка падтрымоўваў шчыльныя кантакты з кіраўніцтвам УПА, польскіх Нацыянальных Сілаў Збройных, з падпольлем Летувы, Латвіі і Эстоніі. Праходзілі сумесныя партызанскія канферэнцыі і збройныя акцыі.

### «ЧОРНЫ КОТ» ІДЗЕ Ў НАСТУП

У 1948 годзе ген.Вітушка прымае рашэньне рэзка актывізаваць дзейнасьць беларускіх партызанаў. У гэты час уплыў "Чорнага Ката" ужо распаўсюдзіўся на Палесьсе, белавежскую і Аўгустоўскую пушчы, Вяліжскія і Барысаўскія лясы, Усходнюю Прусію.

У сакавіку 1948г. злучаныя аддзелы "Чорнага Ката" заатакавалі Наваградак. Успамінае афіцэр Д. (падаю ягоныя ўспаміны цалкам паводле газэты "Беларускае Слова" (Нямеччына), 15 верасьня 1949 г.):

*«РАСПЛАТА*

*Наш атрад у ліку 500 чалавек размясьціўся ў лесе каля в.Літоўка. На поўдні, кіламетраў на 3, паблісквай агнямі Наваградак. Была цёмная сакавіковая ноч 1948 года. Чамусьці ня спалася. Абняўшы халоднае цела аўтамата, ляжаў я і думаў... Прыпомнілася, як у лютым месяцы 1945 году пайшло нас 144 былых жаўнераў БКА на чале з каманьдзірам Родзькам у напрамку Прагі, каб праз фронт дабрацца да Беларусі... Пасьля на парашуце спусьціўся Вітушка. І з таго часу вось так кожную ноч...*

*Дзесь каля 4-ай гадзіны голасна загукаў пугач, і за якіх пару хвілін атрад гатовы быў да бою. У суправодзе каманьдзіраў перад атрадам зьявіўся Вітушка - каманьдзір атраду. Малады, ураўнаважаны, упэўнены, ён спакойным звонкім голасам зьвярнуўся да партызанаў:*

*"Браты партызаны. Я ня люблю шмат гаварыць, ды гэта і не патрэбна. За нас будуць гаварыць нашыя кулямёты і аўтаматы. Яны за тры гады навучыліся. У нашых руках яны заікацца ня будуць, бо мы ведаем, для чаго іх узялі, і ня выпусьцім, пакуль не пераможам ці памром. Маці Беларусь абліваецца сьлязьмі і крывёю пад бальшавіцкім залезным ботам. Крывёю за кроў, сьмерцю за сьмерць мы будзем плаціць нашым сьмяротным ворагам.*

*Сёньня мы павінны ўзяць Наваградак і пакараць катаў нашага народу. У першую чаргу мы павінны захапіць МДБ, кашары, дзе знаходзяцца польскія і сібірскія карныя атрады, тэлефонную і тэлеграфную станцыі, райкам, райвыканкам, міліцыю і выпусьціць з астрогу ўсіх вязьняў. Адказных работнікаў расстраляць на месцы, так, як робяць яны з намі. Забітых і параненых партызанаў забраць з сабою. Атаку пачынаць па сігналу чырвонай ракеты, збор на Замкавай гары па сігналу зялёнай ракеты. Будзьце бязьлітаснымі і бясстрашнымі. З Божай дапамогай мы пераможам".*

*- Пераможам. - у паўголаса паўтарылі партызаны.*

*Вітушка зьвярнуўся да каманьдзіраў, напомніў ім тактычныя задачы. Каманьдзіры паўтарылі загад і са сваімі падразьдзеламі зьніклі ў цемнаце. Адзін падразьдзел пайшоў па Татарскай, другі - па Карэліцкай. Мы з каманьдзірам атраду Вітушкам пайшлі ў напрамку Замкавай гары і за хвілінаў 25 былі там. Пакінуўшы на замкавай гары ўкраінскі аддзел, мы рушылі па Слонімскай на пляц. Па дарозе да нас далучылася каля 20 жыхароў Наваградку. Перад самым пляцам спаткалі галоўны дазор, ад якога даведаліся, што тэлефонная і тэлеграфная станцыі, памяшканьне міліцыі і райвыканкаму заняты бяз стрэлу.*

*Хутка пасьля гэтага да Вітушкі падбег партызан П-ч і перадаў паведамленьне каманьдзіра Р., што ён дасягнуў будынку МГБ, устанавіў два кулямёты супраць дзьвярэй і чакае на сігнал. Аналагічнае паведамленьне было атрымана ад каманьдзіра К., які мусіў атакаваць кашары. Вітушка паглядзеў на гадзіньнік: была роўна 5-я гадзіна. Ён перахрысьціўся і пусьціў у неба ракету. Там яна расьцьвіла, як букет чырвоных ружаў, і на зямлю, як чырвоныя кроплі крыві, пасыпаліся іскры...*

*Наваградак загуў, як вулей. Пачуліся стрэлы стрэльбаў і аўтаматаў, застагнаў кулямёт. Вітушка выцягнуў з-за пояса гранату і, крыкнуўшы: "За мной, хлопцы", - кінуўся ў бок кашараў. Падпусьціўшы нас амаль да самых кашараў, "карацелі" секанулі па нас з стрэльбаў і кулямётаў. З другога паверху паляцелі гранаты. Мы пападалі на зямлю, папрыціскаліся да сьценаў. Вітушка шпурнуў гранату на балкон, адкуль біў па нас кулямёт. Апошні замоўк, і тады мы пачалі кідаць у вокны гранаты, ламаць прыкладамі забарыкадаваныя дзьверы. З другога боку кашараў тое ж самае рабілі партызаны каманьдзіра Х. Нягледзячы на заняты супраціў, мы ўварваліся ў кашары. Пачаўся кулачны бой. Вітушка і К. былі ў першых шэрагах і з крыкам "Бі, іх, сталінскіх апрычнікаў" паказвалі прыклад уменьня і адвагі. У кожным пакоі, занятым намі, валяліся дзесяткі трупаў. Кашары былі ў нашых руках. Толькі ў вялікай залі клубу ўсё яшчэ не здаваліся сібіракі. Адначасова туды было кінута некалькі гранатаў. Пасьля выбуху мы праніклі ў залу. Дым душыў у горле, рэзаў вочы. На падлозе ў прадсьмяротных канвульсіях курчыліся параненыя. З боку сцэны рэзануў аўтамат. Каманьдзір К. захістаўся і ўпаў на падлогу. Яго падхапілі партызаны і па загаду Вітушкі аднесьлі на Замкавую гару.*

*Даўшы некалькі стрэлаў з ручнога кулямёта па сцэне, мы ўзышлі туды. Выцягнуўшы рукі, нібы просячы ў нас ратунку, уверх тварам ляжаў жоўты чалавек з раскосымі вачыма.*

*"Апошні з Удэге" - сказаў хтосьці. Па твары Вітушкі прамільгнуў прамень задавальненьня. "Першая частка трагедыі закончаная", - сказаў ён і на хвіліну задумаўся. "А зараз, - загучэў ягоны голас загадам, - усе на штурм МДБ".*

*Пакуль мы змагаліся ў кашарах, каманьдзір Р. браў прыступам будынак МДБ. Пасьля упартага бою МДБ было ўзята. Шмат катаў беларускага народу за ўсе свае праступствы заплацілі жыцьцём. Некалькі чалавек уцяклі. Начальнік МГБ быў узяты жывым.*

*Калі мы набліжаліся да будынку МДБ, насустрач нам ішлі якіясь суцені. На пытаньне, хто яны такія, спалоханы адказвалі "свае" і, азіраючыся, уцякалі ад нас. Пасьля мы даведаліся, што гэта былі "ворагі народу", якіх вызвалілі са скляпеньняў МДБ партызаны. Было іх чалавек 270. Больш за сотню прымкнулі да нас. Ім была выдадзена зброя і гэтую ж ноч яны расплаціліся з катамі за свае пакуты.*

*Другая частка трагедыі, як казаў каманьдзір Вітушка, была закончана. Заставалася толькі пакараць крывасмокаў, якія былі ў нашых руках: начальніка МДБ, сакратара райкаму партыі і некалькі актыўных камуністаў. Але Вітушка не даваў дазволу, чакаючы на весткі ад каманьдзіра М., які пайшоў вызваляць арыштаваных з астрогу. Хутка надыйшла вестка, што ў астрозе засталіся толькі трупы катаў да галодныя пацукі. Вязьні ў ліку 800 чалавек вызвалены. Чалавек 500 пажадалі ісьці разам з намі, і яны накіраваны на замкавую гару. Тады Вітушка даў загад расстраляць каля будынку райкаму партыі ягонага сакратара, начальніка МДБ і інш. Загад быў выкананы. На страсе райвыканкаму ўмацаваны бел-чырвона-белы сьцяг. Вітушка пусьціў зялёную ракету - сігнал да збору. Пераможным крокам мы пайшлі па Слонімскай. На гары ў зборы быў увесь атрад. Гаспадарнік увіхаўся каля новых партызанаў, яшчэ сяголетняшніх вязьняў: карміў іх хлебам і байкамі.*

*Вітушка зьвярнуўся да яго: "Трафеі". Стаўшы на зважай, той адрапартаваў: "Тры кулямёты, 650 аўтаматаў, 1300 стрэльбаў, 70 скрынак патронаў і каля 300 забітых".*

*- Колькі страцілі людзей?*

*- Пятнаццаць забітых і трыццаць раненых.*

*- Як каманьдзір К.?*

*- Памёр, спадар каманьдзір.*

*Вітушка хвіліну памаўчаў, пашукаў чагосьці вачыма ў тым баку, адкуль мы толькі што прыйшлі, пагледзеў на гадзіньнік і загадаў стаць у паходную калону. Была 8-я гадзіна раніцы. Калона рушыла ў напрамку в.Літоўка. Са страхі райвыканкаму доўга махаў нам на разьвітаньне бел-чырвона-белы сьцяг.*

*Са слоў партызана Д-а запісаў А.Зарэцкі.»*

Увосень 1948 года аддзелы "Чорнага Ката" сумесна з УПА захапілі Кобрынь, а ў сакавіку 1949 - Гайнаўку. На пачатку 1948 году аддзел Сакаловіча каля месяца кантраляваў некалькі вёсак у раёне Барысаў-Радашковічы. У верасьці 1949 г. некалькі сотняў беларускіх партызанаў зрабілі напад на канцлагер каля Менску, каб вызваліць вязьняў. Адбыўся жорсткі бой. Партызанам удалося ўварвацца на тэрыторыю лагеру, але выкліканыя з Менску ахоўваю часткі савецкай арміі прымусілі лесавікоў адыйсьці ў лес. Кожны бок у гэтым бai страціў каля 50 чалавек забітымі.

Напрыканцы кастрычніка 1948 г. на ваенным палігоне каля Ніжняга Ноўгарада адбыўся замах на Сталіна, які выканалі два танкісты. Адзін з іх на допыце ў МДБ паказаў, што замах падрыхтавалі кіраўнікі "Чорнага Ката" і УПА Міхась Вітушка і Тарас Чупрынка (генерал Раман Шухевіч).

Газета "Бацькаўшчына" (Мюнхен) пісала 25 сакавіка 1950 года: "...Прэса Зах.Эўропы што раз часьцей успамінае аб беларускай партызанцы пад Вільняй, Горадняй, Лідай, Менскам і Баранавічамі, якая вядзе асабліва зацятае змаганьне з НКУС і ягонымі агентамі. Часамі гэтыя дробныя партызанскія аддзелы лучацца ў большыя адзінкі і на цэлыя тыдні займаюць гарады і мястэчкі, затрымліваюць цягнікі, вызваляюць вязьняў і г.д. Мясцовае жыхарства ў большасьці выпадкаў шчыра падтрымлівае іх, дзе толькі мага".

### ІЗНОЎ АБ «ЧОРНЫМ КАЦЕ» І ЯГО КІРАЎНІКУ

Ёсьць цікавым факт дзеяньня "Чорнага Ката" ня толькі на Віленшчыне, але і ў ваколіцах Каўнаса. Нярэдка заходняя прэса паведамляла, што партызаны Вітушкі дзейнічаюць на абшары паміж Каўнасам і Берасьцем, Каўнасам і Маладэчнам. Летувіская эміграцыйная прэса вельмі хваравіта ўспрымала гэтыя весткі, усяляк абражаючы беларускіх партызанаў, якія "акупуюць" Летуву. У газеце "Беларускае слова" 18.06.49г. зьявіўся з гэтай прычыны артыкул "Партызаны і палітыканы", у якім аўтар тлумачыць гэтае тактыкаю партызанскай вайны: "...калі адзін з аддзелаў Вітушкі апынаецца пад Каўнасам, або адзін з аддзелаў Летувіскага Вызвольнага Войска пад Менскам, дык гэтае зусім ня сьведчыць аб імперыялістычных намерах двох антыбальшавіцкіх народаў".

Пішучы пра "Чорнага Ката", былы нямецкі ваеннапалонны адзначаў: "Таемныя законы беларускае партызанкі нагадваюць сабой чорны крыж Сіцылійскае Мальты. Той, хто здрадзіць партызана МУС, ня можа ўжо быць пэўным свайго жыцьця". Іншы партызан пісаў: "...прысуд нашага суду раней ці пазьней заўсёды выконваецца, і гэта ведаюць як жыхары, так і камуністыя. Пасьля прысуду заўсёды паведамляецца жыхарства адпаведнымі лістоўкамі, абвесткамі або поштаю".

Разьведка партызанаў працавала вельмі эфектыўна. Калі ў Менску праходзіў суд над паэткай Ларысай Геніюш, партызаны ведалі, у чым яе абвінавачвалі, куды і на колькі гадоў саслалі. Ведалі, што супраць паэткі сьведкаю на судзе выступала рэпатрыянтка Вольга Зубко (яна працавала падчас вайны ў БЦР), якая да гэтага выдала дэбістам некалькі падпольшчыкаў. Партызанскі суд присудзіў яе да сьмерці.

Ёсьць цікавай характарыстыка, дадзеная генералу Вітушку нямецкім афіцэрам, які з ім сустрэўся ў 1948 г.: "(У ваколіцах Каўнаса) спаткаўся я з Вітушкам - каманьдзірам партызанаў, перад якім усе маюць страх і які мяне дапытваў. Ён ёсьць сярэдняга росту, чарнавалосы і мае вельмі быстры погляд... Вітушка зьяўляецца фанатычным праціўнікам бальшавізму. Ён хоча змагацца ўсімі сродкамі за незалежнасьць сваёй беларускай Бацькаўшчыны... Жандармерыя і паліцыя ня маюць адвагі пачынаць што-небудзь супраць людзей Вітушкі, бо баяцца яго помсты".

Бальшавікі некалькі разоў выпускалі ўлётку ў справе паімкі, забіцьця і "пераходу" да іх ген.М.Вітушкі і ягоных намесьнікаў. На пачатку 1949 года савецкае радыё ўрачыста абвясьціла, што Вітушка ўзяты ў палон. Аднак партызанскае радыё адразу апратэставала гэтае паведамленьне.

Я вельмі старанна шукаў фотаздымкі партызанаў ген.Вітушкі, але безпасьпяхова. Толькі ў газеце "Бацькаўшчына" 25 сакавіка 1950 г. быў зьмешчаны фотаздымак з подпісам: "Аbход 25-га сакавіка адным з беларускіх партызанскіх аддзелаў у 1948 г." Большасьць партызанаў - гэта моладзь 18-20 гадоў.

(Заканьчэньне будзе)







## САЛОН НА ФАРТАХ

У кнігарні "Кругазор" створаны новы мастацкі салон. Гарадзенскае Таварыства народных майстроў нарэшце прыдбала сабе сталае памяшканьне для выставаў. Першая экспазіцыя прадстаўляе жывапісныя працы і дэкаратыўна-прыкладныя вырабы. Усьцешна, што ў час татальнай меркантыльнасьці, мастацтва жыве і, будзем верыць, перамагае. Нягледзячы на трагізм цэнтральнага палатна Дзьмітрыя Іваноўскага, выстава "гучыць" досыць жыцьцясьцьвярджальна.

**У.Х.**

**Карціна Д.Іваноўскага "Дапамажыце, калі ласка, маёй маці!"**

**Фотарэпрадукцыя Я. Ванюкевіча.**

## ГОНАР БЕЛАРУСІ БУДЗЕ АДСТОЙВАЦЬ ГОРАДНЯ

Пасьлязаўтра, пасьля летняга адпачынку, на першую трэніроўку зьбяруцца баскетбалісты "Гродна-93", якія ў гэтым годзе будуць адстойваць гонар Беларусі ў эўракубках. Ужо ў бліжэйшы час стане вядомы першы сапернік клубу ў Кубку Карача. А пакуль нашы хлопцы зьбіраюцца на 24-дзённы збор у Парэччы. Зьмены ў складзе мінімальныя: ад'ехаў у Польшчу Навіцкі, трэніруюцца ў клубе некалькі дэбютантаў.

З кожным сапернікам "Гродна-93" павінен будзе згуляць абавязкова і на сваёй пляцоўцы, што несумненна, узрадуе аматараў гэтага віду спорту ў Горадні.

І яшчэ адна цікавая навіна: не выключана, што паралельна з чэмпіянатам Беларусі, "Гродна-93" будзе гуляць і ў Украінскай баскетбольнай лізе.

**Вітаўт РУДНІК.**



## «НЁМАН» (1992-95): АЗІРНЕМСЯ, АСЭНСУЕМ

**Перапынак паміж першынствамі краіны па футболе дазволіў падсумаваць рахункі. Прапануем вашай увазе асабісты сьпіс-баланс гарадзенскага "Нёмана"**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| С.Гурэнка | 99 | 2+7 | Ю.Данілевіч | 16 | - |
| В.Юйко | 98 | 5+14 | А.Знак | 15 | - |
| Д.Траско | 95 | 4+2 | Д.Дрожжа | 11 | 1+0 |
| П.Бацюта | 92 | 12+9 | М.Грышын | 9 | -9 |
| А.Жылюк | 92 | 0+1 | В.Саладоўнікаў | 7 | - |
| Г.Мардас | 85 | 4+4 | Д.Барысейка | 7 | - |
| М.Белезяка | 83 | 4+11 | А.Валавік | 5 | - |
| С.Кукалевіч | 78 | 5+5 | С.Адамовіч | 3 | - |
| А.Сысоеў | 78 | 2+3 | С.Багуцкі | 3 | - |
| І.Петрашэвіч | 60 | 0+2 | А.Вярбіцкі | 3 | - |
| Ю.Мазурчык | 55 | 20+5 | У.Касюк | 3 | - |
| А.Рыбак | 55 | -58 | Д.Чарноцкі | 2 | 1+0 |
| Ю.Сьвіркоў | 46 | -44 | А.Гарыслаўскі | 2 | - |
| С.Кароза | 43 | 10+5 | Д.Козіч | 2 | - |
| А.Драчылоўскі | 43 | 3+3 | В.Някрэвіч | 2 | - |
| Я.Савань | 41 | 8+4 | Г.Саваш | 2 | -1 |
| А.Савіцкі | 40 | 6+0 | І.Быстрыцкі | 1 | - |
| А.Крыванос | 39 | 4+2 | А.Гусак | 1 | - |
| С.Саладоўнікаў | 36 | 17+6 | А.Коцін | 1 | - |
| П.Пузына | 30 | 2+2 | І.Панцюхоў | 1 | - |
| С.Мірошкін | 27 | - | С.Парфёнчык | 1 | - |
| С.Пальяновіч | 26 | - | В.Столік | 1 | - |
| В.Кашэўнік | 24 | - | В.Суліцэнка | 1 | - |
| С.Сахарэвіч | 22 | - | | | |

Табліца адлюстроўвае індывідуальныя паказчыкі гульцоў "Нёмана" за чатыры нацыянальныя чэмпіянаты. Першая лічба пасьля прозьвішча - колькасьць праведзеных гульняў, далей - колькасьць галоў і галявых перадачаў (у брамнікаў прапушчаных мячоў). Усяго гонар першай каманды горада абаранялі 47 футбалістаў. Лепшым снайперам застаецца Юры Мазурчык, асістэнтам - Віктар Юйко. Апошні, зважаючы на ад'езд Гурэнкі, мае ўсе шанцы першым згуляць сотую гульню на вышэйшым узроўні. Аб'ектыўныя лічбы яскрава "высьвечваюць" высокі каэфіцыент выніковасьці С.Саладоўнікава, С.Карозы і нягеглясцьць апорных хаўбекаў Д.Траско, І.Петрашэвіча. Сярод абаронцаў варта вылучыць Генадзя Мардаса - бадай што самага стабільнага гульца клубу.

**Уладзімер ХІЛЬМАНОВІЧ.**

## УСЯ СПРАВА Ў ХАРАКТАРЫ

**У адрозьненьні ад "Нёмана", які праваліў сезон, асабліва яго другую палову, футбалісты лідзкага "Абутніка" скончылі сезон з добрым настроем. У чым прычына такой пасьпяховай гульні лідзкіх футбалістаў? Аб гэтым мы запыталі прэзідэнта "Абутніка" спадара Прохарава.**

- Уся справа ў тым, што пасьля таго, як з каманды пайшлі Макаранка, Бурнос і шэраг іншых вядучых футбалістаў, ролю лідараў узялі на сябе астатнія гульцы. Напрыклад, выдатна замяніў Бурноса ў варотах Максім Лычоў. Згубіўшы штосьці ў індывідуальным майстэрстве, мы выйгралі ў арганізацыі гульні. І ўвогуле, хлопцы праявілі характар - адсюль і вынік.

Што ж, пажадаем абутнікам і ў наступным сезоне радаваць сваіх заўзятараў.

**Вітаўт РУДНІК.**

## НОВЫЯ СПАДКАЕМНІЦЫ КОРБУТ

У Менску адбыўся розыгрыш Кубку і чэмпіянату краіны па спартыўнай гімнастыцы. У старэйшай узроставай групе (сярод майстроў спорту) першыя два месцы ў агульным заліку занялі гарадзенскія дзяўчаты - Сьвета Тарасевіч і Лена Саўко. Справядлівасьці дзеля адзначым, што ў спаборніцтвах ня бралі ўдзел мацнейшыя гімнасткі Беларусі.

**Х.К.**

## ШЧУЧЫН АПЯРЭДЗІЎ МЕНШЧЫНУ

На мінулым тыдні ў Раўбічах скончыліся рэспубліканскія спаборніцтвы па тэхніцы пешаходнага турызму. Гарадзеншчыну прадстаўлялі юныя турысты з Шчучынскага раёну, якія на працягу года былі лепшымі ў вобласьці. На жаль, старт на больш высокім узроўні аказаўся няўдалым - нашыя хлопцы і дзяўчаты занялі перадапошняе, шостае месца, апярэдзіўшы толькі турыстаў з Менскай вобласьці.

**Вітаўт РУДНІК.**

### ХАТНЯЙ ГАСПАДЫНІ

## ПРЫГАТАВАНЬНЕ ВІНАЎ

Пры браджэньні тэмпература ў бутэлі падымаецца на 8-10 градусаў. Пераграваньне небясьпечнае для вінных дражджэй, таму бутэль неабходна ставіць у прахалоднае месца (склеп), каб тэмпература ў ёй была 18-20 градусаў і ня болей 25 градусаў. Праз 3-4 дні браджэньне слабее. У гэты час уносяць другую частку цукру, таксама разьведзенага ў вадзе, а праз 7-8 дзён - астатнюю частку цукру. Цяпер, калі браджэньне праходзіць павольна, бутэль заносяць у памяшканьне з тэмпературай 20-25 градусаў, каб палепшыць браджэньне. Неабходна, каб пры кожным дабаўленьні ўвесь цукар перабрадзіў. Браджэньне спыняецца праз 14-20 дзён. Вуглекіслы газ больш не выдзяляецца, дрожджы апускаюцца на дно, і віно ў верхніх слаях пачынае сьвятлець. У гэты час яго аддзяляюць ад дражджэй.

Віно зьліваюць ў чыстую бутэль з дапамогай сіфону і назіраюць, каб у яе ня трапілі дрожджы. Посуд запаўняюць даверху так, каб пры закрыцьці корак поўнасьцю выцясьніў паветра. Застаўшуюся густую масу з дражджамі можна зьліць у палатняны мяшок і даць сьцекчы віну. Пералітае ў бутэль віно ставяць ў склеп на 3-4 тыдні для асьятленьня. За гэты час трапіўшыя пры пераліваньні дрожджы асядуць на дно. Віно зноў пераліваюць сіфонам у чыстую бутэль, а з яе праз 3-4 тыдні разьліваюць у бутэлькі. Пры жаданьні зрабіць віно салодкім да яго дадаюць цукровы сіроп, прыгатаваны з як мага меншай колькасьцю вады (800г. цукру на 200г. вады). Сіроп дадаюць у віно па смаку (40-60г. на 1л.). Пасьля гэтага віно разьліваюць у бутэлькі. Даданьне цукру можа выклікаць браджэньне віна. Каб гэтага не адбылося, падсалоджанае віно пастэрызуюць. Бутэлькі напаўняюць так, каб паміж коракам і віном засталося паветра 2-2,5см., корак прымацоўваюць да бутэлькі дротам і праграваваюць бутэлькі ў вадзе пры тэмпературы 65 градусаў 20 хвілін. Потым корак размацоўваюць.

Пастэрызаванае віно лепш захоўваецца, і ў ім хутчэй праходзіць працэс старэньня, яно хутчэй пасьпявае, паляпшаецца яго смак. Бутэлькі з віном лепш захоўваць лежачы, каб корак увесь час заставаўся вільготным, інакш унутр пападзе паветра. З мэтай паляпшэньня віна яго вытрымліваюць. Для розных гатункаў вінаў час вытрымкі розны. Некаторыя віны поўнасьцю гатовыя ўжо праз 8-12 месяцаў, а пры далейшай вытрымцы пачынаюць губляць сваю якасьць, але ёсьць і такія, якія трэба вытрымліваць ад 2 да 10 гадоў і болей, і смак іх паляпшаецца. Добра вытрыманае старое пладовае віно вельмі смачнае. Віны лепш за ўсё выраблядь з сумесі сокаў. Пры зьмешваньні сокаў паляпшаецца колер і водар віна. У большасьць вінаў пажадана дадаваць у невялікай колькасьці сок рабіны альбо грушы, якія зьмяшчаюць у сабе шмат дубільных рэчываў, дзякуючы чаму віны лепш асьвятляюцца і набываюць некаторую аскомістасьць. Аднак вырабляць віны з сумесі сокаў значна цяжэй, чым з аднаго соку.

## БУКЛЕТ М.БАГДАНОВІЧУ.

**Упраўленьне культуры і друку гарадзенскага аблвыканкаму сумесна з музеем імя Максіма Багдановіча ў Горадні выпусьцілі буклет, прысьвечаны знакамітаму нашаму паэту.**

Буклет складаецца з шасьці старонак. Адкрываецца ён невялікім уступам, напісаным у свой час Антонам Луцкевічам. На другой і трэцяй старонцы буклету партрэт і невялікі жыцьцёвы нарыс аб лёсе паэта.

Фотаздымкі і тэкст да выданьня падрыхтавалі адпаведна Л.Даўгела і А.Чобат.

**Г.А.**

### КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

**Прывабна чырванеюць трускалкі і суніцы, хутка пасьпеюць вішні і маліна. Сам час паклапаціцца аб прыгатаваньні варэньня, кампотаў ці сокаў на зімовы час. Прапаноўваем шаноўным чытачам некалькі рэцэптаў.**

*СУНІЦЫ ЛЯСНЫЯ.*

Узяць 1 фунт буйных суніц, сабраных у добрую пагоду, палажыць на блюда, апырскаць сьпіртам, пасыпаць 1/2 фунта цукту і паставіць на цэлую ноч у халоднае месца (халадзільнік, склеп).

На другі дзень прыгатаваць сіроп з 1 1/2 фунта цукру і шклянкі вады, пракіпяціць, усыпаць ягады і варыць як звычайнае варэньне.

1 фунт - прыблізна 400 грамаў.

*МАЛІНА ЛЯСНАЯ.*

Сабраць буйную, ня надта перасьпелую маліну, палажыць ягады на блюда. На 1 фунт ягад узяць 1 1/2 фунта цукру, чацьвёртую частку стаўчы і пасыпаць ягады, паставіць на ноч у халоднае месца. На другі дзень прыгатаваць сіроп з рэшты цукру і 1 шклянкі вады і заліць астылым сіропам ягады на 3 гадзіны. Варыць як звычайна.

*ТРУСКАЛКІ.*

Прыгатаваць як маліну. На 1 фунт ягад 1 шклянка вады і 2 фунта цукру. Сіроп пракіпяціць, усыпаць ягады і варыць, кожны раз адстаўляць тазік і здымаць пенку. Даварваць на малым агні, пакуль сіроп не пачне перацягвацца перапонкай.

*ЯГАДЫ БЯЗ ЦУКРУ Ў БУТЭЛЬКАХ.*

Суніцы, маліну, агрэст, вішню, чарэшню, брусніцы, журавіны і другія ягады перабярыце, прамыйце і адцадзіце. Пракіпяціце чыстыя бутэлькі і запоўніце іх ягадамі. Прыкрыйце іх (негерметычна) коркамі і пастаўце ў посуд з вадой, на дно якога пакладзена драўляная рашотка, або анучка, складзеная ў некалькі разоў. Вады ў посуд наліць на 3/4 вышыні бутэлькі, накрыць і кіпяціць 20 хвілін. Пасьля выцягніце бутэлькі на стол або дошку, шчыльна закрыйце, моцна абвяжыце шпагатам, астудзіце. Коркі заліце парафінам або сургучом. Зімою з такіх ягад можна прыгатаваць кісель, кампот, жэле.

**Іван ДЗЯДОК.**

"ПАГОНЯ"
Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.
Адказны сакратар Дз.Ціпіцын.
Стыль-рэдактар Ю.Гумянюк.
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.
Індэкс 63124.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 3053
Наклад 8936 паасобнікі.
Нумар падпісаны да друку 6.07.95, у 16.00